

Беларускі ПЭН Цэнтр

# Культурны супрацiў у Беларусі

**выпуск 30 (43)**

**26 ліпеня–1 жнiўня 2021**

*ленты*
*на стволах и ветках*
*помогают не сбиться*
*с пути*
*платьице*
*красное в белом окне*
*не один уже месяц*
*сохнет и сохнет*
*помогает*
*в пути*

**Дзмітры Строцаў**



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ВЫНІКІ МАНІТОРЫНГУ ПАРУШЭННЯ КУЛЬТУРНЫХ ПРАВОЎ ЗА СТУДЗЕНЬ-ЧЭРВЕНЬ 2021 ГОДА

**За 1-е паўгоддзе 2021 года зафіксаваны 621 выпадак <u>парушэння культурных правоў</u> і правоў чалавека ў дачыненні да дзеячаў і дзяячак культуры.**







| Дзеячы культуры | Усяго чалавек |
|---|---|
| Палітзняволеныя (па стане на 30.06.2021) | 39 |
| Прызнаныя палітзняволенымі (цягам паловы года) | 23 |
| Незаконна асуджаныя | 24 |
| Пачалі адбываць «хімію» | 4 |






# 2. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



**26 ліпеня на волю выйшлі Ігар Ільяш, журналіст, аўтар (разам з Кацярынай Андрэевай) кнігі «Беларускі Данбас» і Алег Груздзіловіч, журналіст, аўтар дакументальнай кнігі пра выбух у мінскім метро ў 2011 годзе.**



Фота: svaboda.org





**Следства пакінула без зменаў хатні арышт Юліі Чарняўскай. Яна была затрыманая 18 траўня і абвінавачваецца па арт. 243 Крымінальнага кодэксу – Ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў.**





**У Гродна ліквідуюць мясцовы «Рок-клуб», заснаваны ў 2014 годзе Ігарам Банцарам, і «Студыю карысных кампетэнцый».**





**Па месцы рэгістрацыі Наталлі Зданевіч, кіраўніцы праектаў «Фонда развіцця Брэсцкай крэпасці», 28 ліпеня адбыўся ператрус, які праводзіў КДБ. Нічога не забралі, глядзелі кнігі, з чым быў звязаны ператрус, не патлумачылі. Фонд аб'ядноўвае намаганні міжнародных экспертаў у галіне вывучэння спадчыны Брэста і Брэсцкай крэпасці, ініцыюе архіўныя даследаванні, спрыяе папулярызацыі гісторыі ў новых сучасных фарматах.**



**Андрусь і Таццяна Мастыкі выйшлі на волю 29 ліпеня пасля 10 дзён арышту.**

**Вярхоўны суд разгледзіць пазоў аб ліквідацыі Беларускага ПЭН-цэнтра 3 жніўня.**

**Інстытут імя Гётэ афіцыйна спыніў працу ў Беларусі – такім было патрабаванне Міністэрства замежных спраў Беларусі.**




european gate



**У Брэсце зліквідавалі яшчэ чатыры грамадскія арганізацыі, сярод іх: культурна-асветніцкая установа «Брэсцкі Аазіс» і культурна-асветніцкая установа «Еўрапейская брама».**

**Кніга «Рэвалюцыя» Віктара Марціновіча з’явілася ў продажы ў крамах канфіскату. У студзені 2021 года ў выдавецтва «Кнігазбор» было канфіскавана каля 500 асобнікаў кнігі.**

Каталог конфиската > Печатная продукция, полиграфия > Печатные книги, газеты, репродукции и другие изделия полиграфической промышленности рукописи, маш > Книга <Рэвалюцыя>. Віктар Марціновіч Мінск. <Кнігазбор>. 2020. (б/у. без видимых дефектов) Количество страниц - 280.

**Книга <Рэвалюцыя>. Віктар Марціновіч. Мінск. <Кнігазбор>. 2020. (б/у. без видимых дефектов) Количество страниц - 280.**

# 3. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ



**Наталля Хершэ, мастачка, асуджаная да 2 гадоў і 6 месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму, амаль два месяцы правяла ў штрафным ізалятары, дзе нават не выдаюць пасцельную бялізну, у якасці пакарання за адмову шыць форму сілавікам і іншыя парушэнні. Цяпер яе перавялі ў адзіночную камеру. Наталля не збіраецца пісаць прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі.**

**Ігар Банцар, які адбывае «хімію» ў Віцебску за танец у стрынгах перад міліцыянтам, даслаў паштоўкі арыштаванаму кіраўніцтву «Вясны»; упершыню амаль за 40 дзён яго даставілі ў паліклініку, дзе ён паступова пачаў праходзіць абследаванне; яму прыйшла прапанова напісаць просьбу аб памілаванні, але ён не збіраецца гэтага рабіць.**






**Стася Міронцава піша з папраўчай калоніі №4 у г. Гомель, дзе яна асуджаная адбываць 2 гады зняволення:**
***«16-га мы глядзелі прэм'еру тэатральнай пастаноўкі. Тут ёсць клуб – такое памяшканне са сцэнай, вялізнымі шторамі і шэрагамі крэслаў. Рэжысёр ужо шмат гадоў працуе з асуджанымі. Вельмі крутую зрабіў пастаноўку! А дзяўчаты як сыгралі!.. Я нават падумала, што гэта сапраўдныя акторы».***

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

**Нягледзячы на тое, што шмат дзеячаў і дзяячак культуры пакінулі Беларусь – праз пераслед, звальненні, немагчымасць працаваць – шмат засталіся ў Беларусі і працягваюць штодзённую працу па захаванні і развіцці беларускай культуры, хоць не так заўважна і шумна, як тое, што мы бачылі цягам 2020 года. Аднак такая сітуацыя для нас не новая, і мы ведаем цану гэтай штодзённай працы, без якой не было б таго свята культуры і абуджэння, што мы назіралі летась.**

**Мікіта Моніч, мастацтвазнаўца, які летам 2020 года быў звольнены з Нацыянальнага мастацкага музея за верш, распачаў YouTube праект «Около культуры», у якім ён будзе распавядаць, як атрымаць задавальнення ад культурных артэфактаў і навошта хадзіць у музеі ды тэатры.**



Фота: relax.by



**Гурт Laudans прэзентаваў новую кампазіцыю «Я б хацеў застацца». Відэа зрабіла мастачка Ліза Лянкевіч.**

**Хор Вольных Бараўлянаў павіншаваў суседзяў і ўсіх беларусаў з Днём Незалежнасці 27 ліпеня.**




**Кніга прозы Паўла Каспяровіча «Чорная рэчка» выйшла пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў. Павел Каспяровіч – паэт, празаік, праваслаўны святар, клірык Свята-Пакроўскага сабора ў Гродна.**

**Уладзімір Скамарошчанка, мастак з Гродна, распрацаваў <u>серыю</u> графічных партрэтаў выбітных беларускіх культурных дзеячоў і дзеячак.**











Выстава Іконы Веткі «Вогнепадобныя і агняпальныя…» адкрылася 24 ліпеня ў Нацыянальным мастацкім музеі.

Мастацкі куратарскі праект «Экзістенція. Прастора» адкрыўся ў Мінску 22 ліпеня. Маладыя беларускія мастакі і мастачкі-графікі раскрываюць тэму самотнасці, экзістэнцыйнага крызісу, унікальнасці быцця чалавека.



Фота-выстава «Genius loci. Genius lost / Геній месца. Геній згубленасці» завяршылася ў НЦСІ 1 жніўня. Зыходнай кропкай мастацкага праекта стаў плэнер у арт-вёсцы Каптаруны, натхняльным і містычным месцы на мяжы Беларусі і Літвы. Фатографы намагаліся згубіцца ў незнаёмым ландшафце, і адкрыць яго і сабе наноў.

Выстава маляванак – маляваных дыванoў, распаўсюджаных на тэрыторыі Беларусі ў 20-50-х гг 20 ст. – «Зори-Заряницы» праходзіць у НЦСІ.

Відэаверсія канцэрта, які адбыўся ў межах Тыдня беларускай культуры 11 ліпеня з удзелам беларускіх артыстаў, што ў выніку палітычных рэпрэсій пераехалі ў Кіеў.

Канцэрт «Вольнага хора» прайшоў на возеры Тэгель у Берліне.



**Знакаміты оперны спявак Ілья Сільчукоў выпусціў кліп на песню «Волки». У сюжэце адгукаецца тэма гвалту, які беларусы перажылі ў 2020-м.**





**Беларуская дызайнерка Алёна Штайнке запусціла продаж сваёй калекцыі для дапамогі жанчынам–палітвязням.**



# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

**Аляксей Стрэльнікаў, тэатральны крытык, выкладчык Акадэміі мастацтваў, які далучыўся да страйку восенню 2020 года, у выніку чаго быў звольнены:**
***«Цэнзура заключаецца ў тым, каб з тэатру зрабіць мастацтва добранадзейных людзей: цэнзарам трэба толькі пераканацца, што вось такі не працуе, а вось такому не далі гастрольцы. Абысці гэта магчыма, а калі ты не трапіў у чорны спіс і за табою пільна не сочаць, увогуле можна дазволіць сабе пэўныя вольнасці. Думаю, гэтая ілюзія свабоды, а таксама ўнутранае адчуванне, што ты робіш нешта важнае, шмат каго і трымае ў тэатры. Я кажу «ілюзія», але гэта не значыць, што я лічу такую свабоду несапраўднаю: свабода чалавечага духу часам важнейшая за свабоду наведаць нейкую кавярню ці з'ехаць у іншую краіну. Таму людзі бываюць настолькі хворымі тэатрам і таму яны могуць не падтрымліваць дзейных уладаў, але заставацца ў дзяржаўнай установе».***







**Сяргей Дубавец, пісьменнік, сябра Рады Беларускага ПЭН-цэнтра:**
***«З гледзішча адзінства беларускай гісторыі паўстанне 2020-га цалкам упісваецца ў доўгі шэраг паўстанняў, якія адбываюцца ў Беларусі з часоў падзелаў Рэчы Паспалітай. Дэтанатар гэтых паўстанняў нязменны — непавага да чалавека».***

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Народныя амбасады распрацавалі <u>інструмент</u>**
**для транслітарацыі беларускіх імёнаў на замежныя мовы.**




**У Японіі стварылі беларускае кімано**
**з вершамі Лырысы Геніюш.**
**Яго <u>прадставілі</u> падчас Алімпійскіх гульняў.**




**<u>Канцэрт</u> Вольнага хора,**
**прысвечаны Марыі Калеснікавай,**
**прайшоў у Варшаве.**




**<u>Выстава</u>**
**«Беларусь. Гісторыя праз мастацтва»**
**праходзіць у Манако з 30 ліпеня па 9 жніўня.**



Фота: Народная воля

**Кацярына Андрэева і Дар'я Чульцова <u>ўзнагароджаныя</u> Ляйпцыгскай прэміяй за свабоду СМІ. Кацярына Андрэева – суаўтарка кнігі «Беларускі Данбас».**



**Хваля міжнароднай салідарнасці з Беларускім ПЭН-цэнтрам і грамадскай супольнасцю не сыходзіць. Штодня з'яўляюцца новыя артыкулы, заявы і словы падтрымкі ў адрас арганізацый і асобных грамадскіх, культурных дзеячаў і журналістаў. Кожнае з выказванняў па-свойму despite рознае, але чырвонай стужкай праз кожны тэкст праходзіць «Мы салідарныя».**

**LITERARY HUB**

**Національна спілка письменників України**

**Delo (Славенская штодзённая газета)**

**Sezione traduttori editoriali Strade in Slc-Cgil**

**NDR Kultur**

LIT HUB



DELO






# 7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У жніўні 8 чалавек, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Алесь Пушкін, мастак (6 жніўня); Сяргей Ціханоўскі, блогер (18 жніўня); Анатоль Хіневіч, праграміст і бард (19 жніўня); Арцём Такарчук, архітэктар (20 жніўня); Сяргей Волкаў, акцёр (21 жніўня); Мікалай Дзядок, блогер і літаратар, грамадскі актывіст (23 жніўня); Ала Шарко, менеджарка культуры, праграмная дырэктарка Прэс-клуба (24 жніўня) і Ігнат Сідорчык, рэжысёр, акцёр і паэт (25 жніўня).**

**Адрасы, на якія ім можна накіроўваць лісты, – па спасылцы.**

